# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 3 (190)
сакавік 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:



**Чытайце, пішыце, каментуйце на абноўленым сайце ЗБС “Бацькаўшчына” zbsb.org!**




# ДЗЕНЬ ВОЛІ

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК**

# ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ “БАЦЬКАЎШЧЫНА” ВІНШУЕ ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ДНЁМ ВОЛІ

Шаноўныя сябры!

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” віншуе ўсіх суродзічаў з найвялікшым нацыянальным святам – Днём Волі!

Штогод у гэты дзень – 25 сакавіка – беларусы на Радзіме і ва ўсім свеце з гонарам згадваюць, як беларускі народ аднавіў сваю дзяржаўнасць, абвясціўшы незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. На падмурку БНР паўстала сучасная Рэспубліка Беларусь. Ідэалы і каштоўнасці заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі за стагоддзе не страцілі актуальнасці і да сёння з’яўляюцца нацыянальным арыенцірам.

Будзьма салідарнымі, моцнымі і разважлівымі! Усе разам з імпэтам працягнем будаваць вольную суверэнную беларускую дзяржаву!

Жыве Беларусь!

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# У МІНСКУ ЎРАЧЫСТА АДКРЫЛІ ПАМЯТНЫ ЗНАК У ГОНАР БРАТОЎ ЛУЦКЕВІЧАЎ

У мінскім парку імя Янкі Купалы 13 сакавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнага знаку ў гонар ідэолагаў беларускай дзяржаўнасці Антона і Івана Луцкевічаў. Помнік адкрывала стрыечная пляменніца Луцкевічаў, Маргарыта Сяргееўна Пярова.




"Я вельмі ўдзячная тым, хто ажыццявіў маю мару. Маёй шматгадовай марай была хоць нейкая адзнака прысутнасці братоў Луцкевічаў у гэтым месцы", – адзначыла яна.

Першапачаткова памятны знак планавалі паставіць трошкі лявей, на другаснай алеі, але туды не змог пад'ехаць кран. І знак паставілі менавіта пад тапаляй, якая расла каля дома Луцкевічаў.

Аўтары памятнага знаку – заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, прафесар міжнароднай акадэміі архітэктуры Юры Градаў і скульптар сябра Беларускага саюза мастакоў Канстанцін Целяханаў.

У ранейшым Маргарыта Пярова расказала, што ўстаноўка памятнага знаку рабілася агульнымі намаганнямі нашчадкаў Луцкевічаў, музею імя Янкі Купалы, ЗБС "Бацькаўшчына", Міністэрства замежных спраў і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Беларусі. Фінансаваў праект і ўстаноўку Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт.

Да Другой сусветнай вайны на месцы парку Янкі Купалы была жылая забудова. Браты Луцкевічы пераехалі ў Мінск з Лібавы ў 1896 годзе і жылі на тагачаснай Садовай вуліцы. Тут, каля цяперашняга Купалаўскага музея, стаялі дамы іхнай сям'і.

Антон і Іван Луцкевічы ўваходзілі ў першую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Антон Луцкевіч быў адным з ініцыятараў Трэцяй Устаўной граматы БНР ад 25 сакавіка 1918 года, паводле якой дзяржава абвясціла сваю незалежнасць.

Адкрыццё памятнага знака – пачатак святкаванняў 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Падчас цырымоніі адкрыцця старшыня партыі БНФ Рыгор Кастусёў запрасіў усіх прысутных на канцэрт ля Опернага тэатра 25 сакавіка.

**Уладзь Грыдзін, "Радыё Свабода"**

**#БНР100**

# #БНР100 АДЗНАЧЫЛІ Ў ВІЛЬНІ

24 сакавіка ў Старым горадзе літоўскай сталіцы адбылося святочнае шэсце ад вуліцы Татора да Ужупіса, адкрыццё "вуліцы Полацкай" і святочны беларуска-літоўскі канцэрт.



Таксама была адкрыта выстава фотаздымкаў. Святкаванні 100-гадовага юбілею арганізаваны сумеснымі высілкамі Беларускага дома правоў чалавека імя Б. Звазскова, грамадзянскай кампаніяй "Еўрапейская Беларусь", моладзевай асацыяцыі StudAlliance, Таварыства беларускай культуры ў Літве, студэнцкім прадстаўніцтвам Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, а таксама беларускімі і літоўскімі грамадскімі дзеячамі, пры падтрымцы Вільнюскага гарадскога самакіравання, Сейма Літоўскай Рэспублікі і Цэнтра Усходнееўрапейскіх даследаванняў (EESC).

**Паводле "Новы Час"**

# МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ЛІТВЫ ПАВІНШАВАЎ БЕЛАРУСАЎ З 100-ГОДДЗЕМ БНР



Міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус павіншаваў беларусаў з 100-годзьдзем абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

"Акт незалежнасці 25 сакавіка паказаў ясны намер беларускага народу жыць самастойна, захоўваць свае звычаі і мову. Толькі стварыўшы нацыянальную дзяржаву, народ можа быць спакойным за сваю будучыню, бо гэта гарантыя выжывання, паўнавартаснага развіцця.

Лічу, што абвяшчэнне незалежнасці ў 1918 годзе дапаможа вам і сёння захаваць беларускую тоеснасць і ганарыцца ёй. Літва як найбліжэйшая суседка зацікаўленая ў будучыні Беларусі як незалежнай дзяржавы, якая прытрымліваецца еўрапейскіх нормаў і каштоўнасцяў.

За нашу і вашу свабоду!"

Свой зварот Лінас Лінкявічус прамовіў па-беларуску.

**"Радыё Свабода"**




# КАНЦЭРТ "СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ" КАЛЯ ОПЕРНАГА ТЭАТРА Ў МІНСКУ НАВЕДАЛІ КАЛЯ 50 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

Такую лічбу агучыў адзін з арганізатараў канцэрту "Свята Незалежнасці" Павел Белавус.

На пляцоўцы ля Опернага тэатра ўдзень 25 сакавіка адбыўся канцэрт "Свята Незалежнасці". Паводле розных падлікаў, туды прыйшлі ад 20 да 50 тысяч чалавек.

Шасцігадзінны канцэрт каля мінскай Оперы стаў цэнтральнай падзеяй святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён быў дазволены гарадскімі ўладамі.

Падчас урачыстай часткі канцэрту з прамовай выступілі грамадскія дзеячы, прадстаўнікі СМІ, спонсары і партнёры кампаніі #БНР100. Сярод іх Валянцін Голубеў, Алесь Ліпай, Юры Зісер, Франак Вячорка, Зміцер Дашкевіч і іншыя. Быў зачытаны зварот ад Святланы Алексіевіч. "Свята незалежнасці" – не толькі музычны канцэрт. Падчас мерапрыемства працавалі фудкорт "Ежа БНР", забаўляльна-адукацыйная пляцоўка "Вуліца БНР", сувенірны "Кірмаш БНР" і дзіцячая пляцоўка "Дзеткі БНР".

З галоўнай сцэны Дня Волі прагучалі песні гуртоў Nizkiz, Akute, РСП, Dzieciuki, Amaroka і "Мутнаевока". Са святам прысутных павіншавалі Юры Стыльскі, Ігар Варашкевіч, Кася Камоцкая, Пётар Клюеў, Адэля Вольская і Павал Аракелян.

На другой гадзіне канцэрту #БНР100 старшыня руху "За свабоду" Юрась Губарэвіч паведаміў, што на пляцоўцы на Траецкай гары сабралася каля 20 тысяч чалавек. Павал Белавус сказаў Свабодзе, што лічыў наведнікаў па прадукцыі і галовах і налічыў 40 тысяч.

На пятай гадзіне канцэрту вядоўца Аляксей Сапрыкін заявіў са сцэны, што праз "Свята Незалежнасці" прайшлі 50 тысяч чалавек.

Мінская міліцыя афіцыйныя лічбы ўдзельнікаў не агучвала.

25 сакавіка ў Мінску абаненты мабільных аператараў і журналісты наракалі на праблемы з сувяззю каля Опернага тэатра, дзе адбываўся святочны канцэрт да 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці БНР, а таксама ў раёне плошчы Якуба Коласа, калі затрымлівалі патэнцыйных удзельнікаў шэсця. Тэхнічны эксперт, які пажадаў захаваць ананімнасць, сказаў "Свабодзе": калі праблемы з сувяззю ў раёне Опернага тэатра можна было спісаць на вялікую колькасць адначасовых карыстальнікаў мабільных прылад, якія "паклалі" сетку, то растлумачыць слабы мабільны сігнал у журналістаў падчас прэвентыўных затрыманняў апоўдні на плошчы Якуба Коласа цяжка.

Падчас канцэрту #БНР100 людзі ў цывільным пачалі кропкава "адлоўліваць" па-за тэрыторыяй Опернага тэатра мінакоў, якія трымалі нацыянальную сімволіку – стужкі, сцяжкі, шарыкі. Па завяршэнні імпрэзы праваахоўнікі затрымлівалі ў горадзе людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Правесці несанкцыянаваае шэсце на Дзень Волі не ўдалося – удзельнікаў акцыі затрымалі падчас збору на плошчы Якуба Коласа, агулам больш за 30 чалавек. Ініцыятараў дэманстрацыі на чале з Мікалаем Статкевічам і Уладзімірам Някляевым затрымалі напярэдадні і вызвалілі пасля завяршэння дазволенага канцэрту.

Агулам 25 сакавіка па Беларусі затрымалі каля 120 чалавек (пароўну ў Мінску і рэгіёнах).

"Радыё Свабода"

# НА ЛІДЧЫНЕ ЎСТАЛЯВАЛІ ПАМЯТНЫ КАМЕНЬ "100 ГОД БНР"

Актывісты і фундатары адшукалі вялікі валун патрэбнай формы ў вёсцы Дакудава, каля Нёмана.

Затым перавезлі яго на прыватны падворак у Ёдкі. А майстар з Бярозаўкі вырабіў на камені адпаведны надпіс – "100 год БНР" і "Беларусь навечна". Такім чынам Лідчына адзначае памятную дату ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Разьбяр па дрэве Іван Мікулка, гаспадар сядзібы, дзе ўсталяваны камень: "100 год таму адбылася такая з'ява – утварэнне БНР. Канешне, гэта гістарычная падзея, і гэты камень – ужо не проста камень, які дзесьці ляжаў там у полі, цяпер ён з'яўляецца гістарычным каменем. 100 год – гэта не дзіцячы ўзрост, не юнацкі. Гэта сталы ўзрост. Таму кожны з нас павінен адчуваць, дзеля чаго ён жыве".

Ідэя ўсталявання памятных камянёў з нагоды 100-годдзя БНР належыць палітыку Зянону Пазняку. Мяркуецца, што цягам гэтага года падобныя манументы паўстануць па ўсёй Беларусі, а таксама па свеце, дзе жывуць беларусы. Вядома, што патрыёты з Наваградчыны таксама выступілі з падобнай ініцыятывай.

Андрусь Панямонаў,
"Беларускае Радыё Рацыя"



#БНР100

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВАРШАВЕ

Урачыстым шэсцем беларусы Варшавы адзначылі Дзень Волі. Маніфестанты прайшліся цэнтральнымі вуліцамі Варшавы.

Шэсце пачалося ля помніка Касцюшку, а завяршылася мітынгам ля падножжа помніка Адаму Міцкевічу.

“Улады дазваляюць нам, беларусам, на іх тэрыторыі адсвяткаваць. Паліцыя нас ахоўвае. Гэта файна. Вельмі прыемна сустрэць сваіх знаёмых, блізкіх людзей, аднадумцаў. Такое ўражанне, што ты знаходзішся сярод сваіх”, – гаворыць удзельнік шэсця, супрацоўнік Цэнтру Беларускіх Студыяў Варшаўскага ўніверсітэта Ігар Кузьмініч.

Урачыстасць прайшла без надзвычайных здарэнняў. Паводле падлікаў арганізатараў і паводле дадзеных варшаўскай паліцыі, у шэсці ўзялі ўдзел звыш 200 чалавек.

**Паводле Эдуарда Жолуда, “Беларускае Радыё Рацыя”**





# ПРЭЗІДЭНТ ПОЛЬШЧЫ ПАВІНШАВАЎ БЕЛАРУСКІ НАРОД СА 100-ГОДДЗЕМ БНР

Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда павіншаваў народ Беларусі са 100-годдзем Беларускай Народнай Рэспублікі.

“У 100-ю гадавіну гэтай падзеі ўсім беларусам, з якімі польскі народ аб’ядноўвае агульная гісторыя і культура, перадаю сардэчныя пажаданні дабрабыту і поспехаў у развіцці іх радзімы”, – напісаў Дуда ў паведамленні, якое публікуе канцылярыя польскага прэзідэнта.

Дуда звярнуў увагу на тое, што юбілей абвяшчэння незалежнасці БНР адзначаюць дэмакратычныя колы, улады ў святкаванні не ўдзельнічаюць. Прэзідэнт Польшчы таксама адзначыў, што ўлады не дазволілі вулічнае шэсце ў Мінску, на чым настойвала частка апазіцыі. У выніку апошнімі днямі былі затрыманыя і прыгавораныя да арыштаў апазіцыйныя палітыкі і актывісты. У паведамленні, у прыватнасці, згадваюцца Уладзімір Някляеў і Вячаслаў Сіўчык.

Прэзідэнт Польшчы таксама нагадаў, што і год таму падчас вулічных акцый у Дзень Волі ў Беларусі былі затрыманыя некалькі сотняў чалавек.

**“Новы Час” паводле БелаПАН**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў БЕЛАСТОКУ

Святочная служба ў царкве ўжо стала мясцовай традыцыяй у адзначэнні ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. У царкве святога Яна Тэолага прайшоў малебен.

А пазней у падляшскай філармоніі на ўрачыстасці, прымеркаванай да святкавання 100-годдзя БНР, сабралася каля 500 чалавек. З лекцыямі выступілі гісторыкі Алег Латышонак і Уладзімір Арлоў. Сабраным затанцаваў дзіцячы калектыў “Падляшскі вянок”. Сярод запрошаных гасцей былі прадстаўнікі мясцовых уладаў. Вялікія апладысменты залы прыняў прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі, які скончыў сваю прамову словамі: “Няхай жыве незалежная Беларусь!”

Мастак Лявон Тарасэвіч, гісторык Юры Туронак і войт гміны Орля Пятро Сэльвэсюк атрымалі гербы Пагоні – сімвалічная ўзнагарода, традыцыйна прызнаная за асаблівы ўнёсак у развіццё беларускай справы ў Польшчы.

Узнагароду за хворага Юрыя Туронка атрымаў яго ўнук. Паводле другога лаўрэата Лявона Тарасэвіча, такія людзі, як Юры Туронак, выхавалі студэнцкае пакаленне беларускіх дзеячаў: “25 сакавіка і Пагоня ў той час былі ў падполлі. Дзякуючы таму, што было пакаленне, якое перанесла ідэю вольнай Беларусі і БНР, пасля перайшло на нашае студэнцкае пакаленне, на сённяшні дзень гэта надалей існуе”.

Пры канцы перад поўнай залай філармоніі выступіў Лявон Вольскі.

**Лукаш Леанюк, “Беларускае Радыё Рацыя”**




навіны

# МІРА ЛУКША АТРЫМАЛА ЛІТАРАТУРНУЮ ПРЭМІЮ ІМЯ ВЕСЛАВА КАЗАНЭЦКАГА

Міра Лукша і Анна Каміньска сталі лаўрэаткамі літаратурнай прэміі Прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага. Міру Лукшу адзначылі за ўвесь творчы даробак, але з асаблівай увагай на адну з апошніх яе кніг – “Радаслоў”.

Узнагароду лаўрэатцы ўручыў прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі.

Сёлета намінаваліся таксама кнігі “Miłość” Ігната Карповіча, “Martwiątka” Кшыштафа Пулаўскага і зборнік паэзіі “Licencja na pierwszy śnieg” Эвы Владарскай. Кніга Міры Лукшы была вылучаная на конкурс праграмнай радай тыднёвіка “Ніва”.



Пісьменніца выказала падзяку калегам за матывацыю і падтрымку: “Думаю, гэта было прыемна не толькі мне, але і бацькам, сябрам, шмат якім беларусам, якія ведаюць маю творчасць, любяць мае творы, спяваюць мае песні”.

**Уля Шубзда, “Беларускае Радыё Рацыя”**

#БНР100

# У НЬЮ-ЁРКУ ПРАЙШОЎ ПАРАД НА РОВАРАХ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМІ СЦЯГАМІ

У Нью-Ёрку прайшоў першы ў гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША парад на роварах, прысвечаны 100-ым угодкам абвешчання БНР.

Парад на роварах быў арганізаваны актывістамі Ганнай Шарко і Аляксандрам Мазгавым, вядомымі па сваіх праектах, накіраваных на аб'яднанне беларусаў ЗША і на папулярызацыю беларускай мовы і культуры ў замежжы. Маршрут даўжынёй у 5 з паловай міляў пачынаўся ў цэнтры Манхэтана на Таймс-Сквэр. Вялікая частка дарогі прыйшлася на Брадвэй. Нью-ёркцы, прызвычаеныя да экзотыкі, выказвалі сваю падтрымку і не ленаваліся запытацца пра сцяг. Хлопцы і дзяўчаты ахвотна расказвалі пра Беларусь і пра юбілей БНР. Па прыездзе ў канцавы пункт маршруту – Боўлін Грын парк – адбылося ўрачыстае ўзняцце бел-чырвона-белага сцяга на гістарычны флагшток – на тым месцы ў 1783-м годзе ўпершыню быў узняты амерыканскі сцяг пасля таго, як брытанскія войскі былі вымушаны пакінуць Манхэтан.

Пад акампанемент гітары Аляксандра Мазгавога ўдзельнікі параду праспявалі песні "Сцяг" Змітра Вайцюшкевіча, "Грай" Brutto і "Тры Чарапахі" NRM. З прывітальнай прамовай выступіў Старшыня Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня" Віталь Зайка.

**Сяргей Трыгубовіч, "Наша Ніва"**






## У ПРАЖСКАЙ РАТУШЫ АДБЫЎСЯ ПРЫЁМ З УДЗЕЛАМ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

У Празе адбыўся ўрачысты прыём з нагоды 100-годзьдзя абвяшчэння незалежнасці БНР.



У святкаванні ў Пражскай ратушы ўзялі ўдзел каля 200 чалавек. З прамовай выступіла старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Пражская ратуша – гэта адно з самых прэстыжных месцаў чэшскай сталіцы, у якіх праводзяцца ўрачыстыя цырымоніі.

"Ужо сто гадоў беларусы на радзіме і на эміграцыі не забываюць пра 25 сакавіка 1918 года. Ужо больш за 30 гадоў адзначаю гэтую дату і я. У дзень 100-гадовага юбілею аднаўлення нашай дзяржаўнасці думкі пра БНР асабліва хвалююць і асабліва натхняюць", – сказаў падчас свайго выступу пісьменнік і журналіст "Радыё Свабода" Сяргей Абламейка.

**"Радыё Свабода"**

## У НЬЮ-ЁРКУ АДЗНАЧЫЛІ 100-ГОДДЗЕ БНР

Беларусы Нью-Ёрка пачалі святкаванне 100-годдзя БНР 24 сакавіка. Госці свята сабраліся ў Social Hall на Манхэтане.

Свята пачалося з буфета з беларускімі стравамі. Працавалі таксама кірмаш сувеніраў і выстава "Ідэя БНР у ЗША".

Афіцыйная частка пачалася відэавіншаваннем Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы. З прывітальным словам выступіў таксама ганаровы госць свята – першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц.

Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук з Акадэміі Навук Польшчы выступіў з экскурсам у часы стварэння БНР. Яшчэ адна навуковая прамова – прафесара Ўартбург Коледжа і выканаўчага дырэктара Цэнтра беларускіх даследаванняў Паўліны Сурвілы – была прысвечана вывучэнню беларускай ідэнтычнасці ў Амерыцы. Пра тое, як святкавалі ўгодкі БНР на працягу існавання беларускай дыяспары, распавёў адзін са старэйшын беларускай эміграцыі Вячка Станкевіч. Ірына Хадарэнка, пісьменніца і даследчыца тэорыі і гісторыі літаратуры, прэзентавала свой відэапраект "Галасы свабоды/ Voices of freedom", у якім прагучалі вершы сучасных беларускіх паэтаў і іх пераклады на англійскую мову ў выкананні англамоўных чытальнікаў.

У святочным канцэрце ўзялі ўдзел лідар гурта з Нью-Ёрка "Літвакус" Зісл Сляповіч, выканаўцы з Беларусі Яўген Сокалаў і Vinsent. Ад імя ўсіх прысутных хочацца падзякаваць фундатарам і арганізатарам мерапрыемства: фонду Орса-Рамана, фундацыі Крэчэўскага і асабіста Валянціне Трыгубовіч; вядоўцам імпрэзы: Андрусю Асадчаму, Вользе Мажытовай, Алене Рыдзеўскай і Ганне Сакалоўскай; а таксама Вользе і Алене Талатынік за пачастунак.

**Віктар Дудараў, "Беларускае Радыё Рацыя"**



#БНР100

# У ШТАЦЕ НЬЮ-ДЖЭРСІ АДЗНАЧЫЛІ 100 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР

У Нью-Брансвіку, у гатэлі Hyatt, адзначылі 100 гадоў абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Прайшоў святочны абед, урачыстасць, выстава мастацкіх вырабаў і кніг. Была зачытаная праклмацыя ад губернатара Нью-Джэрсі Філіпа Мэрфі, віншаванне ад кангрэсмэна Сміта. Кангрэсмэн Палонэ асабіста павіншаваў усіх прысутных. Таксама былі зачытаныя віншаванні ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, аддзелаў БАЗА ў Вашынгтоне і Паўднёвай Фларыдзе, Згуртавання Беларусаў Канады, ЗБС "Бацькаўшчына", Нацыянальнага Грамадскага Арганізацыйнага Камітэту па святкаванні 100-гадовага юбілею БНР.

Са святочнымі прамовамі выступілі старшыня Аддзела БАЗА ў Нью-Джэрсі Юрка Азарка, старшыня БАЗ "Пагоня" Віталь Зайка і старшыня Галоўнай управы БАЗА Наталля Федарэнка. Прысутных павіншавалі ганаровыя госці: першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц і былы намеснік амбасадара ЗША ў Беларусі Джон Кунстадтар.

З рэфератам, прысвечаным падзеям у Беларусі 25 сакавіка 1918 года, выступіў Зянон Пазьняк.

Ва ўрачыстай імпрэзе ўзялі ўдзел ганаровыя госці з Беларусі: выконваючы абавязкі старшыні КХП-БНФ ў Беларусі Юры Беленькі, Валеры Мінец і мастак Іван Мікулка, які падарыў амерыканскім беларусам герб "Пагоня", выразаны з дубу.



Віктар Дудараў

**Паводле "Нашай Нівы"**

**Друкуецца ў скароце. Цалкам чытайце на zbsb.org**

# СВЯТКАВАННЕ 100-ГОДДЗЯ БНР У АТАВЕ

11 сакавіка ў Атаве адбылося святкаванне стагодняга юбілею абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беларусы Атавы пачалі падрыхтоўку да свята яшчэ на пачатку снежня 2017 года, калі сябры Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады і сябры Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе распрацавалі план свята.

Пасля нядоўгіх абмеркаванняў рашылі звярнуцца да дэпутата Канадскага парламента сп. Чандра Арыя, які прапанаваў нам правесці гэта свята ў адным з вельмі сімвалічных месцаў у Канадзе – у Цэнтральным будынку Канадскага парламента. Гэта прапанова падалася нам добрым цудам.

Атаўская група беларусаў мае даволі шмат актыўных, ініцыятыўных і адказных сяброў, якія ўклалі свае эмоцыі і сілы, каб свята атрымалася. Не магу ўтрымацца, каб не адзначыць гэтых людзей – Наталія Баркар, Іна і Аляксандр Каралькевічы, Ірэна і Уладзімір Клімковічы, Аляксандра Логвіна, Аксана і Сяргей Мазгавыя, Ірына і Ўладзімір Панчанкі, Галіна Рэзаіпур, Міхась Рыкаў, Галіна Туміловіч, Пётра Шварцман, Уладзя і Юрась Шамецкі. Кожны фрагмент свята быў адпрацаваны імі да найменшых дробязяў – падрыхтоўка праграмы, аб'явы і запрашэнне гасцей, убранства памяшкання, дзе праходзіла свята, аўдыё і відэа суправаджэнне, святочны канцэрт, выстава кніг, напісаных беларусамі Канады, арганізацыя святочнага стала, і шмат яшчэ якіх дэталяў, непрыкметных для неспрактыкаванага ў такіх справах вока. Усё было зроблена на вельмі прафесійным узроўні. Вынікам такой падрыхтоўчай працы сталася вялікая колькасць удзельнікаў свята – звыш 160 чалавек.

У велізарнай зале, дзе звычайна праходзяць урадавыя паседжанні, прагучалі гімны Канады і Беларускай Народнай Рэспублікі ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі"), малітва "За Беларусь", прачытаная архіепіскапам Беларуская аўтакефальная праваслаўная царквы Святаславам.

Адметнай рысай святкавання ў Атаве было тое, што на свяце прысутнічала і выступіла з дакладам Старшыня Рады БНР, сп. Івонка Сурвілла. Беларусам Атавы пашчасціла, што сп. Івонка Сурвілла, якая ўсё сваё жыццё прысвячае служэнню Бацькаўшчыне, яе незалежнасці і свабодзе, жыве ў нашым горадзе.

Пасля даклада зал стоячы дружна вітаў яе авацыямі, а велізарны букет бел-чырвоных руж быў толькі маленькай часткай той павагі і прызнання, якія адчувалі ўсе прысутныя.



У сваім вельмі цікавым выступленні сп. Галіна Туміловіч, кандыдат гістарычных навук, расказала пра ролю прафесара М.В. Доўнар-Запольскага, які абгрунтаваў асновы беларускай дзяржаўнасці і з'яўляецца аўтарам – на самой справе – асноў тагачаснай беларускай гістарычнай ідэалогіі, на якую абапіраліся лідэры БНР.

З прывітальным словам выступілі прафесар сп. Зіна Гімпелевіч і старшыня Згуртавання беларусаў Канады сп. Алена Лявончанка.

Вельмі цёплыя і адпаведныя святу словы былі сказаны дэпутатам Канадскага парламента, сп. Чандра Арыя, які адзначыў, што факт святкавання стагодняга юбілею абвяшчэння БНР у будынку Парламента Канады, толькі падкрэслівае тое, як Канада ставіцца і паважае культурныя і нацыянальныя традыцыі ўсіх народаў, уключаючы беларусаў.

Шмат добрых слоў на адрас удзельнікаў свята сказаў і дэпутат гарадскога савета, сп. Майкл Какіч, які выступаў па даручэнню мэра Атавы, сп. Джыма Ватсана, і перадаў ад яго віншавальнае пісьмо. Яшчэ адной вельмі прыемнай і адметнай рысай свята была прысутнасць лідараў і прадстаўнікоў іншых дыяспар. З вітальнымі словамі выступілі Андрыс Кестэрыс (Латвія), Лорэта Гудінайтэ-Савіч (Літва), Станіслаў Забароўскі (Польшча). Свае лісты даслалі сенатар Канады Рэйнал Андрэйчак і лідар украінскай суполкі ў Атаве, сп. Барыс Генгала.

Прыемным сюрпрызам для ўсіх стаў тост за Беларусь – нашы прыгожыя жанчыны разнеслі па зале келіхі напоўненыя белым і чырвоным шампанскім, выстаўленым на падносе ў бел-чырвона-белым арнаменце. На ўра прайшоў канцэрт, у якім удзельнічалі як нашы артысты з Атавы: Уладзя Шамецька, Міхась Рыкаў, Пётра Мурзёнак, Юрась Шамецька, Галіна Рэзаіпур, Тэрэза Бакус, Ірэна і Уладзімер Клімковічы, так і госці з Таронта – Валянціна Шаўчэнка і Ігар Чэпулкоўскі. Пасля канцэрту ўдзельнікі свята пачаставаліся беларускімі прысмакамі і зрабілі памятныя здымкі.

Імпрэзу і канцэрт натхняльна правяла Аляксандра Логвіна.

Не памылюся, калі скажу, што беларускае свята ў Атаве, прысвечанае гістарычнаму аднаўленню беларускай дзяржаўнасці, надоўга запомніцца як арганізатарам падзеі, там і яго гасцям.

**Пётра Мурзёнак**




## БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ АДСВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ТАРОНТА

Урачыстая імпрэза з нагоды абвяшчэння незалежнасці БНР адбылася ў памяшканні гістарычнага будынка гарадскіх архіваў. Сабралася блізу 150 чалавек. Пасля ўрачыстага сходу адбыўся канцэрт.

**"Наша Ніва" паводле "Радыё Свабода"**

## БЕЛАРУСЫ МАСКВЫ ВЫЙШЛІ З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СЦЯГАМ ДА ПОМНІКА ЯНКУ КУПАЛУ

25 сакавіка беларусы Масквы на мемарыяльным кургане на Кутузаўскім праспекце ўсклалі да помніка Янку Купалу бел-чырвона-белыя кветкі і разгарнулі бел-чырвона-белае палотнішча.

**Паводле К. Атрашэўскага (Масква)**



# УКРАІНЦЫ ПРЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ Ў КІЕВЕ ПАВІНШАВАЦЬ БЕЛАРУСАЎ З ЮБІЛЕЕМ БНР

У цэнтры ўкраінскай сталіцы на плошчы Незалежнасці адбылася акцыя, прымеркаваная да 100-годдзя абвяшчэння БНР.

Акцыю зладзілі прадстаўнікі Беларускага цэнтра "Сябры", Тактычная група "Беларусь", дабрачынная арганізацыя "Міжнародны фонд "Валошка" ды руху салідарнасці "Разам".

Да святкавання далучыліся каля 100 украінцаў ды беларусаў. Салідарнасць з беларусамі выказаў лідар добраахвотніцкага руху "Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў" Мікола Каханіўскі: "Мы выказваем падтрымку патрыятычным беларусам, бо Беларусь таксама мае акупанта і палітвязняў".

Падчас акцыі гучалі песні беларускага добраахвотніка Алеся Чаркашына, які загінуў на ўсходзе Украіны, Андруся Мельнікава.

Сярод удзельнікаў шмат украінцаў адзначылі, што святкаванне стагоддзя БНР ёсць вельмі важным, бо краіна мусіць быць вольнай. "Мы разам маем быць і падтрымліваць адзін аднаго", – сказаў кіяўлянін, які адмыслова прыйшоў на акцыю.

Удзельнікі акцыі прайшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі з плошчы Незалежнасці да вуліцы Грушэўскага – месца гібелі беларуса Міхайла Жызнеўскага і ўсклалі кветкі.



У скверы "Добраахвотнік" да 100-годздзя БНР узнялі бел-чырвона-белы сцяг як сімвал удзелу беларускіх добраахвотнікаў у падзеях на Данбасе. Гэты сквер адкрыты ў 2016 годзе ў адным са спальных раёнаў Кіева.

Фінансавыя выдаткі па ўсталяванні флагштока ўзяла на сябе дабрачынная арганізацыя "Міжнародны фонд "Валошка" ды Тактычная група "Беларусь". Прысутныя ўшанавалі памяць загінулых добраахвотнікаў хвілінай маўчання.

**Алена Літвінава, "Радыё Свабода"**

**навіны**

## ЗБОРНІК ПЕРАКЛАДЗЕНЫХ ВЕРШАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА ПРЭЗЕНТАВАНЫ Ў ІСПАНІІ

Зборнік вершаў Максіма Багдановіча ў перакладзе прэзентаваны ў Іспаніі.

Кніга класіка беларускай літаратуры "Згукі маёй Бацькаўшчыны" на іспанскай мове была выдадзена ў перакладзе Анхелы Эспіносы Руіс пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў і пасольства Беларусі.

Прэзентацыя адбылася на літаратурна-паэтычнай вечарыне, прысвечанай творчасці беларускага паэта, у ганаровым консульстве Беларусі ў горадзе Алікантэ.

На творчай вечарыне, арганізаванай прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Іспаніі, прагучалі такія творы Максіма Багдановіча, як "Санет", "Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы", "Слуцкія ткачыхі", "Зорка Венера" і іншыя. У мерапрыемстве ў тым ліку ўзялі ўдзел беларусы, якія пражываюць у Іспаніі, дыпламаты і мясцовыя жыхары.

Прадстаўнікі беларускай дыяспары перадалі ў дар пасольству карціну вядомага гомельскага мастака Сяргея Радчанкі.

**БЕЛТА**



**навіны**

# БЕЛАРУСЫ БЕЛЬГІІ ПАКЛАЛІ НОВУЮ ПЛІТУ НА МАГІЛЕ АЎТАРА "МАГУТНЫ БОЖА"




65 гадоў таму ў Бельгіі памёр беларускі кампазітар і педагог – Мікола Равенскі, які ў 1944 годзе пакінуў Беларусь і апошнія гады пражыў у эміграцыі ў бельгійскім горадзе Лювэн.

Выкладаў музыку ў тамтэйшым універсітэце і кіраваў хорам з беларусаў, якія таксама аказаліся ў эміграцыі. Хор даў шмат канцэртаў па Заходняй Еўропе, запісалі некалькі плытак. Мікола Равенскі быў сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні.

Успамінамі аднаго з яго вучняў дзеліцца радны БНР з Бельгіі Зміцер Піменаў: "Ён быў ужо цяжка хворы, ведаў, што можа хутка памрэ. Але ён усё роўна, як расказваў Янка Жучка, быў проста апантаны ў гэтых рэпетыцыях. Ён не жыў ні адной хвіліны, каб не займацца музыкай. Ён гадзінамі музыцыраваў. Ён гадзінамі вечарамі займаўся з гэтымі хлопцамі".

Мікола Равенскі пахаваны на могілках горада Лювэн. Зараз гэтае месца шануецца і даглядаецца беларусамі Бельгіі. Яны традыцыйна наведваюць яго на Дзяды і на Дзень Волі.

Некалькі месяцаў таму беларусы з усяго свету сабралі сродкі і ўсталявалі новую надмагільную пліту з нотамі самага вядомага твору аўтара – духоўнага гімна Беларусі "Магутны Божа".

**Андрусь Панямонаў, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# "АМЕРЫКАНСКАЯ МРОЯ". СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЯРАСЛАВА ВІНІЦКАГА



У якія прафесіі ішлі нашыя суродзічы, калі прыбывалі ў 1950-х гадах у Амерыку? Адной з такіх прафесій для многіх сталася зубная тэхніка, абслугоўванне дантыстаў вырабленнем зубоў. Працаю ў гэтай галіне шмат хто здолеў рэалізаваць сабе й дзецям так званую "амерыканскую мрою", ці, як у нас кажуць, выбіцца ў людзі.

Адным з такіх быў нядаўна памерлы (26.01.2018) у Каліфорніі Яраслаў (Славік) Вініцкі. Прыбыўшы ў Нью-Ёрк на пачатку 1950-х, ён неўзабаве перабраўся ў Лос-Анджэлес, дзе пасялілася з часам уся сям'я Вініцкіх: бацькі, два сыны й дачка.

Славік нарадзіўся ў Нясьвіжы (26.04.1925) у сям'і былога афіцэра царскай арміі й беларускага грамадзкага дзеяча Алеся Вініцкага. Сям'я Вініцкіх апынулася пад канец вайны ў Нямеччыне. Там Славік паступіў ва ўніверсітэт і атрымаў дыплом дантыста.

Але ў Амерыцы дыпломы з іншых краін не прызнаюцца, нават калі хто грамадзянін ці ўраджэнец Злучаных Штатаў. Славік выбраў сабе блізкую да дантыстыкі прафесію зубнога тэхніка. Пагатоў, што ён быў здольны ў руках, а ў дадатак адзначаўся артыстычнымі якасцямі, любіў малюнкі, музыку, займаўся ў вольны час фатаграфіяй.

У сваёй прафесійнай працы, у якой яму шмат дапамагала жонка Кацярына (з дому Яцэвічаў), Славік не толькі адзначаўся якасным выкананнем заказаў, але і строгай акуратнасцю, датрымоўваннем тэрмінаў. Усё гэта забяспечыла яму высокую ацэнку з боку дантыстаў, супраца з якімі трывала 35 гадоў.

Працай сваёй Вініцкія змаглі забяспечыць вышэйшую асвету дзвюм дочкам, Ані й Люсі, ды сыну Антону (сёння падпалкоўнік амерыканскай арміі ў адстаўцы). Усім траім грунт да "Амерыканскай мроі" забяспечвалі бацькі.

Працавітае жыццё Яраслава Вініцкага скончылася 26 студзеня сёлета. Сям'я й мноства сяброў ушанавалі ягоную светлую памяць 9 лютага, а 10 лютага адбыліся пахавіны – на просьбу сям'і толькі ў прысутнасці родных – на могільніку Holy Cross Cemetery (імя Святога Крыжа) ў Калвэр-Сіці, частцы горада Лос-Анджэлес.

Вечная яму памяць.

**Янка Запруднік, "Наша Ніва"**

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2018 года

1 красавіка – 245 гадоў таму, у 1773-м, нарадзіўся Юстын Нарбут, гісторык, удзельнік паўстання 1794 г.

2 красавіка – 85 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Віктар Шымук, пісьменнік.

2 красавіка – 50 гадоў таму, у 1968-м, загінулі атаман Якуб Харэўскі і яго ад'ютант Кастусь Гук, удзельнікі нацыянальнага партызанскага руху 1942–1948 гг.

3 красавіка – 15 гадоў таму, у 2003-м, памёр Алег Табола, удзельнік маладзёжнага антысавецкага падполля ў Глыбокім.

4 красавіка – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Юльян Бакшанскі, камандзір паўстанцкага атрада, публіцыст.

6 красавіка – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Язэп Гаўрылік, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

6 красавіка – 70 гадоў таму, у 1948-м, памёр Мікола Шыла, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

7 красавіка – 45 гадоў таму, у 1973-м, памёр Язэп Дыла, пісьменнік.

7 красавіка – 35 гадоў таму, у 1983-м, памерла Ларыса Геніюш, паэтэса.

14 красавіка – 15 гадоў таму, у 2003-м, памерла Зора Кіпель (дзяв. Савёнак), літаратуразнавец, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў ЗША.

16 красавіка – 130 гадоў таму, у 1888-м, памёр Зыгмунт Урублеўскі, фізік, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

17 красавіка – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Лявон Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

17 красавіка – 45 гадоў таму, у 1973-м, памёр Пётр Юргелевіч, мовазнавец.

18 красавіка – 180 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Уладзіслаў Дыбоўскі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., заолаг, батанік, палеантолаг, мінеролаг, фальклорыст.

18 красавіка – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Платон Галавач, пісьменнік.

21 красавіка – 185 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Віктар Каліноўскі, гісторык, адзін з ідэолагаў паўстання 1863–1864 гг.

23 красавіка – 95 гадоў таму, у 1923-м, памёр Ігнат Канчэўскі (псеўд. Ігнат Абдзіраловіч), паэт, філосаф.

23 красавіка – 95 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Мікалай Рулінскі, афіцэр БКА, грамадскі дзеяч у Вільні.

25 красавіка – 15 гаоду таму, у 2003-м, памёр Янка Жамойцін, дзеяч эміграцыі ў Польшчы.

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў на Чарнобыльскай АЭС (1986).

26 красавіка – 135 гадоў таму, у 1883-м, памёр Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

27 красавіка – 140 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Станіслаў Любіч-Маеўскі, грамадска-культурны дзеяч.

28 красавіка – 135 гадоў таму, у 1883-м, памёр Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

28 красавіка – 100 гадоў таму, у 1918-м, Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у Беларускай Народнай Рэспубліцы і прыняў пастанову аб адкрыцці ў Мінску ўніверсітэта.

**Беларусы ў свеце**
№ 3 (190), сакавік 2018
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27